Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 35(71) 30 жніўня- 5 верасня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Сямён Шарэцкі і Чаславас Юршэнас у нашых краях

*У мінулую суботу старшыні парламентаў Беларусі і Літвы пабывалі ў нашым рэгіёне. Старшыня ВС РБ Сямён Шарэцкі сустракаў свайго літоўскага калегу Чаславаса Юршэнаса з жонкай у прыгранічным Каменным Логу, далей іх маршрут пралягаў праз Хажова пад Маладзечнам на Радашковічы. У Хажове палітыкі са світай прыкладна ў 10 чалавек правялі паўтары гадзіны на беларуска-германскім мясаперапрацоўчым прадпрыемстве "Акдзімол". У Радашковічах, кажуць, быў стол. Але афіцыйныя крыніцы аб гэтым не паведамляюць. У той самы дзень пан Юршэнас вярнуўся на радзіму.*

**Аддзел інфармацыі**

## Падзея тыдня

Нават і без удзелу прэзідэнта Беларусі прайшоўшы "круглы стол" вядучых палітычных сіл краіны змог стаць падзеяй у жыцці грамадства, хаця па яго выніках прынята толькі пагадненне, якое ўспрымаецца як звычайная дэкларацыя аб намерах. "Круглы стол" прадэманстраваў, што палітычныя сілы розных напрамкаў аб'ядноўвае сёння адно: абарона Канстытуцыі і законаў, што дзейнічаюць у рэспубліцы. Але гэтая ж пазіцыя і рэзка аддзяляе іх ад палітыкі, што праводзіць кіраўнік дзяржавы (паўтара дзесятка разоў Канстытуцыйны Суд прызнаваў указы прэзідэнта неканстытуцыйнымі).

Удзел кіраўніцтва ПКБ у "круглым стале" стаў прычынай рознагалоссяў у іх асяроддзі і адначасова прадэманстраваў узровень развіцця свядомасці радавых членаў партыі. Сакратар ЦК Новікаў лічыць, што больш небяспечны не гэты ўнутраны крызіс, а агульная для ўсіх партый і рухаў знешняя небяспека, у сувязі з тым, што ў "прэзідэнцкай манархіі" не будзе ніякіх партый.

Падобнае не паздзяляюць ветэраны партыі– выступаючы ў падтрымку прэзідэнта, у якога на ўзбраенні шмат ідэй, выказаных камуністамі, а менавіта барацьба з "несумленнай" прыватызацыяй, адмена нацыянальнай сімволікі, аднаўленне СССР. Гэта проста і зразумела, а тое, што прапануюць лідэры камуністаў цяпер, не ўспрымаецца "старой гвардыяй". Свой выбар паміж прэзідэнтам і палітыкай, што праводзіць кіраўніцтва, павінны зрабіць і члены Аграрнай партыі Беларусі. Усе гэтыя выпрабаванні пакажуць, наколькі разумныя сілы партый нашай дзяржавы і ці варта прэзідэнту прыслухоўвацца да іх меркавання.

23 жніўня кіраўніцтва Злучаных Штатаў Амерыкі, менш чым праз месяц пасля звароту, прадаставіла палітычнае прыстанішча Зянону Пазняку і Сяргею Навумчыку на той падставе, што яны могуць падвергнуцца праследаванням, нягледзячы на тое, што 22 жніўня прэзідэнт Беларусі выступіў з асабістай гарантыяй іх бяспекі пры ўмове вяртання на Радзіму. Цяпер Пазняк жыве ў Нью-Ёрку на кватэры ў Юліі Андрусішынай, маці вядомага спевака Данчыка, і рыхтуецца да парламенцкіх слуханняў у кангрэсе ЗША па праблеме правоў чалавека ў Беларусі.

**Аляксандр УЛАДЗІН.**

## Адным абзацам

❑Запазычанасць па выплаце заробатнай платы перавысіла 978 млрд. рублёў, бюджэт краіны знаходзіцца ў цяжкім стане, аднак дзякуючы новым указам прэзідэнта асобныя сацыяльныя групы грамадзян у хуткім часе атрымаюць матэрыяльную падтрымку. Са спецыяльнага фонду прэзідэнта РБ выдзяляецца 38 мпрд. руб. для аказання матэрыяльнай дапамогі мнагадзетным сем'ям і 36,5 млрд. руб для аказання аднаразовай грашовай дапамогі непрацуючым пенсіянерам і інвалідам І групы для нарыхтоўкі сельгаспрадукцыі і паліва.

❑На X Параалімпійскіх гульнях, што праходзілі ў Атланце, вызначыліся маладзечанцы Ігар Фартунаў (1 сярэбраныя і 1 бронзавы) і Віктар Жукоўскі (2 бронзавыя медалі). Усяго 17 нашых спартсменаў заваявалі 13 медалёў. У складзе дэлегацыі быў і трэнер з Маладзечна Георгій Шэпег.

❑22 жніўня А. Лукашэнка падпісаў указ, па якому грамадзяне пенсійнага ўзросту з 1 верасня па 31 кастрычніка змогуць карыстацца прыгарадным транспартам бясплатна.

❑Па дадзеных Міністэрства статыстыкі, вытворчасць валавага ўнутранага прадукта за 7 месяцаў бягучага года засталася на ўзроўні аналагічнага перыяду 1995 года. У галінах, што вырабляюць тавары народнага спажывання, вытворчасць скарацілася на 2%. На складах прадпрыемстваў назапасілася прадукцыі больш чым на 11 трлн. рублей. У рэспубліцы было 2400 стратных прадпрыемстваў, іх доля павялічылася за 7 месяцаў у 2 разы. Сярод стратных прадпрыемстваў у прамысловасці дзве трэція– дзяржаўныя.

*Заканчэнне на 6-й стар.*



Аб тым, як Юлія і Мікалай Кустэнкі знайшлі сваіх дзетак, чытайце на 3-й старонцы.

## Навіны

### Кіна не будзе

*ВАЛОЖЫН. Па рашэнню Мінскага абласнога прадпрыемства "Кінавідэапракат" у верасні зачыняецца кінатэатр "Юнацтва".*

І ўсе сельскія кінаўстаноўкі раёна таксама. Такія вакацыі абумоўлены, зразумела, эканоміяй. Кінапракатчыкі падлічылі, што ў перыяд масавай уборкі бульбы людзям не да самага масавага з мастацтваў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Ці надоўга?

*АСТРАВЕЦ. Пасля амаль гадавога перапынку аднавіліся работы па будаўніцтве новага адміністрацыйнага будынка міліцыі.*

Генпадрадчыкам на гэтым аб'екце з'яўляецца МПМК-158, якая ўжо не адзін год (праўда, не па сваёй волі) ніяк не можа давесці да канца пачатую справу. Асноўная прычына ў гэтай сітуацыі– фінансаванне, ці дакладней, яго недастатковасць і несвоечасовасць.

Апошнім часам у заказчыка знайшлося 400 мільёнаў рублёў для гэтай справы. І ўсё ж іх хопіць толькі для таго, каб давесці да паду "каробку" і зрабіць дах.

Міліцыянеры спадзяюцца.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Вернікі і музей: супрацьстаянне працягваецца

*АШМЯНЫ. У мястэчку Гальшаны не так даўно адчыніў дзверы адрэстаўраваны касцёл. А на тэрыторыі касцельнага комплексу гадоў з пяць працуе філіял Дзяржаўнага мастацкага музея.*

Як паведаміла па тэлефоне мясцовая журналістка Валянціна Драздова, супрацьстаянне працягваецца: духоўныя асобы хочуць забраць сабе (магчыма, пад раздзявальню вернікаў) "дом-музей", які знаходзіцца на тэрыторыі касцёла. А дзяржаўныя людзі імкнуцца пакінуць памяшканне за сабою.

Пакуль высвятляюцца адносіны, экскурсіі ездзяць глядзець апошнюю выставу– замежны жывапіс XV стагоддзя. А што, зручна: адразу можна памаліцца богу і на работы французскіх, нямецкіх і італьянскіх мастакоў.

**Аддзел інфармацыі.**

### Не толькі дома

*СМАРГОНЬ. Дзве супрацоўніцы Гродзенскага сельгасінстытута наведалі калгас "Кушляны".*

Інжынераў, аграномаў, загадчыкаў участкаў вучылі, як рэгуляваць сеялкі, пугі– страты на полі павінны быць мінімальныя.

Па раёне ездзяць жанчыны-вучоныя Жодзінскага інстытута жывёлагадоўлі. Вучаць, як даіць, як даглядаць статак.

**Аддзел інфармацыі.**

## Для тых, хто верыць Месяцу

### Месяцавы каляндар на верасень

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Панядз<br>Мес.дз. | | 2<br>22.11<br>20 | 9<br>2.54<br>26 | 16<br>10.34<br>5 | 23<br>17.09<br>12 | 30<br>20.42<br>19 |
| Аўтор.<br>Мес.дз. | | 3<br>22.45<br>21 | 10<br>3.56<br>27 | 17<br>11.43<br>6 | 24<br>17.44<br>13 | |
| Серада<br>Мес.дз. | | 4<br>23.24<br>22 | 11<br>4.58<br>28 | 18<br>'12.50<br>7 | 25<br>18.14<br>14 | |
| Чацвер<br>Мес.дз. | | 5<br>24.00<br>23 | 12<br>6.04<br>29 | 19<br>13.56<br>8 | 26<br>18.41<br>15 | |
| Пятніца<br>Мес.дз. | | 6<br>-<br>- | 13<br>1.06<br>7.09<br>1;2 | 20<br>14.56<br>9 | 27<br>19.08<br>16 | |
| Субота<br>Мес.дз. | | 7<br>1.00<br>24 | 14<br>8.16<br>3 | 21<br>15.50<br>10 | 28<br>19.37<br>17 | |
| Нядз.<br>Мес.дз. | 1<br>21.39<br>19 | 8<br>1.55<br>25 | 15<br>9.24<br>4 | 22<br>16.23<br>11 | 29<br>20.07<br>18 | |
| Дата | | 4 вер. | 13 вер. | 20 вер. | 27 вер. | |
| ФАЗЫ Месяца | | 4 чвэрць | маладзік | 2 чвэрць | поўня, зацм. месяц | |

Усход Месяца– для Маладзечна

Крытычныя месяцавыя дні– 4, 9, 15, 19, 23, 26, 29– патрабуюць асцярожнасці і абароны.

Спрыяльныя месяцавыя дні– 6, 10, 12, 16, 17, 30– даюць добрую энергію і падтртымку светлых сіл.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 1 | 3 | 6 | 8 | 11 | 13 | 16 | 18 | 20 | 22 | 24 | 26 | 29 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♉ | ♊ | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♐ |

## Зацьменні ў жыцці Скарыны

*(Працяг).*

У гэты перыяд жыцця Скарыны на яго моцна ўплывалі "Трыдэцыл"– аспект неспадзяванага рашэння мэтавай задачы і адначасова аспект "Паўквадрат" (кармічны)– пакаранне за невыразныя пралікі. Гэтая хімера апаганіла добрыя намеры Скарыны, згуляла ў яго жыцці злавесную ролю. Вядома, што пасля жыццёвых нягод Скарына пераехаў у Прагу, дзе працаваў садоўнікам.

Прафесар багаслоўя Вітэнбергскага ўніверсітэта, а ў мінулым манах-аўгусцінец, Марцін Лютэр выступіў 31 кастрычніка 1517 года са сваімі 95 тэзісамі, накіраванымі супраць продажу індульгенцый. Падзея азнаменавала сабою пачатак рэфармацыі, шырокага грамадскага руху супраць царквы, які ў кароткі час ахапіў многія еўрапейскія краіны.

У 1530 годзе з глыбінь космасу з'явілася камета, страхі перад якімі ў сярэднявечча былі моцныя. У 1531 годзе было ўтворана палітычнае аб'яднанне нямецкіх пратэстанцкіх князёў і гарадоў, якое ўзнікла ў Шмалькальдзене для абароны пратэстантызму, у адказ на адмову імператара Карла V і католікаў прызнаць Аўгсбургскае спавяданне.

Адны даследчыкі пішуць, што Скарына і Лютэр спаткаліся ў 1525 г., іншыя - у 1533. У адпаведнасці з гараскопам Скарыны, гэтая сустрэча павінна была адбыцца ў канцы 1529 або ў пачатку 1530 года ў Вітэнбергу, напярэдадні паездкі ў Маскву. Калі іх сустрэча адбылася, то яна магла насіць тайны, містычны характар, паколькі розніца ў гадах нараджэння рэфарматараў складае 7 гадоў. Гэта магічная ўзаемасувязь, якая прыводзіць да непрадбачанага выніку, умяшанне аднаго з іх у лёс другога.Але падобнага не адбылося, чаму перашкодзіла згаданая камета.

*Іван ШУБЦІК, Маладзечна.*

## Школа

## На ўсё настаўнік здатны

***МАЛАДЗЕЧНА. Чацвёрты сезон настаўнік Пякарскай базавай школы Уладзіслаў Кучко мяняе прафесію на час жніва і працуе памочнікам камбайнера.***

Сёлета іх экіпаж, якім кіруе Аляксандр Янушкевіч,– лідэр уборкі ў калгасе "Кастрычнік". Зарабілі неблагія грошы, могуць разлічваць і на ўзнагароду за напружаную працу.

Мінскі халадзільнік чакае лепшага камбайнера гаспадаркі. Іншыя ўзнагароды– грашовыя: адзін і два мільёны рублёў.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Дадому педагогі не вярнуліся

***ВАЛОЖЫН. Сёлета ў школы раёна прыбылі 17 маладых спецыялістаў. 15 з іх– ураджэнцы Валожыншчыны, якія вучыліся ў сярэднеспецыяльных і вышэйшых навучальных установах па накіраваннях аддзела адукацыі. Большасць– настаўнікі пачатковых класаў.***

Наталля Рослік, Аксана Кульба, Людміла Ціманові, Вольга Мазуркевіч працягваюць спіс настаўніцкіх дынастый. А значыць, школа жыве, маладзее.

І ў той жа час не прыбылі да месца размеркавання 3 настаўнікі замежнай мовы і 7– матэматыкі і фізікі. У адзінай у раёне гімназіі на пачатак новага навучальнага года ажно 7 свабодных ставак выкладчыкаў замежнай мовы. Выйсце знайшлі яшчэ летась: будуць працаваць вахтавым метадам студэнты старэйшых курсаў Лінгвістычнага ўніверсітэта. Але ж ці гэта ўзровень? Для гімназіі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Настаўнік і беспрацоўе

***МАЛАДЗЕЧНА. 43 педагогі знаходзяцца на ўліку ў рэгіянальным цэнтры занятасці насельніцтва. 35 маладых спецыялістаў звярнуліся ў аддзел адукацыі з накіраваннямі вышэйшых навучальных устаноў. Шмат настаўнікаў-пенсіянераў таксама жадаюць яшчэ працаваць у школах.***

У выніку сумеснай работы аддзела адукацыі і дэрэктараў школ з'явілася прапанова прымаць на работу настаўнікаў пенсійнага ўзросту на кантрактнай аснове. Тэрмінам да двух гадоў, з улікам заслуг перад школай, кваліфікацыі, аўтарытэту і здароўя.

–Калі паставіцца да прапановы з усёй прынцыповасцю,– лічыць інспектар па кадрах аддзела адукацыі Л. Бражаловіч,– то яна дапаможа безбалюча скараціць колькасць працуючых пенсіянераў у інтарэсах беспрацоўных настаўнікаў. Вялікая колькасць апошніх знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы і згаджаецца весці хаця б некалькі гадзін (стаўка ў цяперашні час складае 500-700 тысяч рублёў). І ўсё ж-такі ў гэтай сітуацыі пераважае тэндэнцыя дырэктараў школ захаваць у калектывах тых настаўнікаў, якія адпрацавалі па 30-40 гадоў.

Па дадзеных аддзела адукацыі, у гарадскіх школах працуюць 1030 педагогаў. Каля 80 з іх пенсіянеры.

*Наталля РАБЧАНКА.*

## Ёсць порах

***МАЛАДЗЕЧНА. Метадыст мясцовага цэнтра пазашкольнай работы А. Васільеў някепска выступіў у кубку і чэмпіянаце краіны па суднамадэльным спорце.***

На адкрытым кубку РБ ён заняў II месца ў класе радыёкіруемых мадэляў-копій. Таксама адкрыты чэмпіянат краіны "Хуткасць-96" прынёс яму III месца.

Апошнія гады Аляксей Пятровіч займаўся з дзецьмі, рыхтаваў іх да спаборніцтваў. Яго выхаванцы выступалі і за зборную Беларусі. А цяпер вырашыў успамянуць маладосць.

*Аддзел інфармацыі.*

## Паломнікі ў Польшчу

***АСТРАВЕЦ. На зыходзе лета і разам з ім– школьныя канікулы. Большасць хлопчыкаў і дзяўчынак жывуць зараз перадвераснёўскімі клопатамі– разам з бацькамі падбіраюць школьную форму, купляюць ранцы, сшыткі, алоўкі ды фарбы.***

Але не ўсе. Амаль сорак дзетак з Кямелішак, Міхалішак, Падольцаў і Астраўца– юных прыхаджан мясцовых касцёлаў– здзейснілі паломніцтва да святых месцаў у польскіх гарадах Непакаляну і Ліхэнь. Там ёсць касцёл з цудадзейнай іконай Маткі Боскай, а побач– крыніца з гаючай вадой. Прабылі дзеці ў Польшчы тры дні– з 20 да 23 жніўня. Значную дапамогу ў арганізацыі паездкі аказаў Кямелішскі касцёл і старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін, які для гэтай мэты выдзеліў аўтобус.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Вясковы музей

***МАЛАДЗЕЧНА. У вёсцы Гарадок, што ў 22 км на паўднёвы ўсход ад горада, ёсць філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Старшым навуковым супрацоўнікам яго прызначаны філолаг па адукацыі, настаўнік-пенсіянер Мікалай Выдрыцкі. Экспанаты музея размешчаны ў трох залах аднапавярховага ўтульнага будынка.***

Першая прысвечана этнографам, фальклcarыстам, якія даследавалі гэты край,– А. Смолічу, Н. Нікіфароўскаму, В. Дабравольскаму, а таксама вядомым філолагам, археолагам і грамадскім дзеячам А. Кіркору, Я. Корсаку, К. Тышкевічу, М. Федароўскму, П. Шэйну, В. Раманаву, І. Насовічу.

Другая зала знаёміць нас з местачковым побытам і рамёствамі розных часоў. Трэцяя расказвае аб творчасці Янкі Купалы, Зэліка Аксельрода, Івана Козела, Рыгора Семашкевіча– пісьменнікаў, якія нарадзіліся або пэўны час жылі на Маладзечаншчыне.

У вестыбюлі музея змешчаны фотаздымкі, што адлюстроўваюць незабыўную прыгажосць краявідаў гэтага цудоўнага куточка нашай Айчыны.

*Кастусь ХАРАШЭВІЧ.*

## Прырода нас не падводзіць. А мы яе?

***ВІЛЕЙКА. Полымя гуляла па вяршалінах дрэў, ахопліваючы ўсё большыя ўчасткі. Гарэў лес ля вёскі Слабада на Іжаншчыне.***

Страшная гэта справа– верхавы пажар. Эфектыўна змагацца з ім можна толькі з дапамогай верталётаў. Але нам давялося выкарыстоўваць тую тэхніку, якую мелі. Першымі ўступілі ў барацьбу з агнём дваццаць работнікаў Вілейскага лясгаса. Адтуль жа прыбылі тры аўтацыстэрны і трактар. Дапамагалі ліквідаваць загаранне 15 мясцовых жыхароў, пажарныя з дзвюма аўтацыстэрнамі. Агульнымі намаганнямі ўдалося скарыць вогненную стыхію. Але больш гектара лесу ўсё ж паспела згарэць.

У той жа дзень здарыўся пажар на тарфяным масіве ля вёскі Шляпы. Прычына абодвух загаранняў адна і тая– неасцярожнае абыходжанне людзей з агнём. З надыходам сухога надвор'я пачасціліся лясныя і балотныя пажары, усё больш пакутуе прырода.

*Алена АЛЬФЕР.*

## У Маладзечне не самыя горшыя "вертыкальшчыкі"

**МАЛАДЗЕЧНА. Алесь Цадко–намеснік старшыні мясцовай Рады БНФ.**

***–Галоўная ідэя, на якой грунтуецца палітыка БНФ, нацыянальная. Па-сутнасці, нацыяналізм. Што асабіста ты ўкладаеш у гэтае паняцце?***

–Па-першае, ва ўсім цывілізаваным свеце нацыяналізм у лепшым сэнсе гэтага слова атаясамліваецца з патрыятызмам, носьбіты якога імкнуцца да ажыццяўлення мэтаў найбольш карысных для свайго народа. Па-другое, у залежнасці ад шматлікіх акалічнасцей мэты, і метады правядзення ў жыццё гэтай ідэі ў розных народаў розныя, розныя і формы. Вось так я разумею гэта.

***–Але ў большасці нашага насельніцтва ідэалогія нацыяналізму ўяўляецца, як праяўленне асаблівай выключнасці адной нацыі перад другой.***

–Няма нічога дзіўнага ў такім успрыманні яго на ідэі савецкага інтэрнацыяналізму насельніцтва. Аднак існуюць і класічныя абгрунтаванні нацыяналізму, у прыватнасці знакамітым беларускім філосафам, сябрам беларускай Хрысціянскай Партыі, сябрам Рады БНР ксяндзом Вінцэсем Гадлеўскім (расстраляны ў 1942 годзе гестапаўцамі ў Мінску). На яго думку, для нацыяналізму абавязкова павінен існаваць свядомы народ з вызначанымі мэтамі. Калі гэтага няма, няма і нацыяналізму. У газеце "Народны фронт", якая выдавалася ў 30-х гадах, Гадлеўскі падраздяляе нацыяналізм на тры групы– абарончы, творчы, імперыялістычны. Абарончы — з памкненнем стварэння найлепшых умоў эканамічнага жыцця для свайго народа, развіцця літаратуры, навукі, мастацтва, культуры— можна назваць творчым. Нацыя, якая адмаўляецца ад яго, не можа існаваць, а калі няма нацыі, няма і дзяржавы.

Існуе, на вялікі жаль, і імперыялістычны нацыяналізм, дзе большы па колькасці народ падпарадкоўвае сабе, часам і сілай, меншы, насаджае яму свае мову, кульуру, робіць свае правы асноўнымі.

***–Пазняк атрымаў палітычнае прыстанішча, а Новікаў заявіў, што пры любых абставінах застанецца ў краіне. Відавочна, пазіцыя другога выйграе.***

–У дачыненні да Новікава няма і не можа быць палітычнага пераследу. У Пазняка ды Навумчыка становішча іншае.

***–Вядучыя палітычныя партыі краіны правялі "круглы стол". А што ў Маладзечне, так бы мовіць, на нізавым узроўні?***

–Абавязкова будзем сустракацца, раіцца, узгадняць дзеянні перад рэферэндумам. Запрашэнне будзе ўсім. Думаем супрацоўнічаць і з уладамі–у нашым горадзе не самыя горшыя "вертыкальшчыкі".

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## Дзяржаўныя "мамы" замянілі родных

***МАЛАДЗЕЧНА. Ёсць у дзіцячым садку №20 нешматлікая група, выхаванцы якой заўсёды з'ядаюць свой абед увесь, да апошняй крошкі.***

Трэба бачыць, з якім жаданнем і хуткасцю, каб, барані бог, ніхто не апярэдзіў, не адабраў. Выхавальніц і нянечак яны клічуць мамамі: "мама Оля", "мама Наташа". У першыя дні вядуць сабе насцярожана і недаверліва, а затым ад клопату і дабраты шматлікіх "мам" адтаюць, пачынаюць усміхацца і становяцца падобнымі на ўсіх звычайных дзяцей. Вось толькі ў групе надоўга не затрымліваюцца: праз месяц-два вырашыцца іх далейшы лёс, і адных адправяць у інтэрнат, бо тату і маму пазбавілі бацькоўскіх правоў, іншым пашанцуе больш– забяруць апекуны.

Больш за год дзейнічае кругласутачная група прытулку для абяздоленых дзяцей ад трох да дзевяці год. Створана яна па рашэнню гарвыканкома, і, як гэта ні сумна, ніколі не пустуе.

–І не будзе пуставаць, пакуль у нашым грамадстве квітнеюць п'янства, алкагалізм, наркаманія, амаральнасць,– гаворыць загадчыца садка Вольга Башынская.– Цяпер у нас шасцёра дзяцей, і толькі адна, старэйшая дзяўчынка просіцца дадому, да мамы...

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

# Як Юлія і Мікалай Кустэнкі знайшлі сваіх дзетак, і што з гэтага атрымалася

## Як мама на базар ездзіць

Гаспадарка ў Мікалая і Юлі Кустэнкаў была заўсёды. Большасць мястачкоўцаў заўсёды кармілася з панадворку і зямлі. Лебедзева— не выключэнне. Часам, нешта Юля і на базар у Маладзечна завязе.

Аднаго разу гаспадыня сабралася ў горад. На прыпынку села ў аўтобус, і ўжо рахуючы ў галаве, што б змагла прадаць і якія грошыкі атрымаць, пачула прарэзлівае: Мама! Саша, яе Сашка, аказваецца, цікаваў за мамай з кустоў, і як толькі тая зайшла ў аўтобус, кінуўся— не хацеў заставацца дома.

Другім разам у нядзелю Юля паехала ў Маладзечна прадаваць слівы на ровары. Вяртаючыся, ўжо ў Дамашах, убачыла сваіх дзетак: дзесяцігадовая Анечка, на год меншы Саша і шасцігадовы Колечка беглі навыперадкі: Мамка! Мамка!

—Па сукенцы блакітнай мяне пазналі. Ляцяць. Адзін аднаго трымаюць, каб першаму даляцець. Так бягуць, так бягуць! І бацьку калі пачуюць... Калі ўбачаць, што сабака хвастом завіляў: татка ідзе! А трактар яшчэ ў Мароськах пачуюць: татка, татка!. Ляцяць да яго. Людзі дзівяцца. Ні валасінчку не задумваюся, што гэта чужыя дзеці, чужых дзяцей не бывае. Каб нават і былі свае, і ўзяў такіх, усё адно— ураўняюцца дзеці, не бывае чужых. Усякае бы-



*Мама з Сашам і Колем*

вае, і давядуць, а я потым спытаюся: ці хацеў бы ты цяпер удваіх застацца. Не,— гаворыць.

Я кажу: Анечка, хутка глядзіш,— і замуж пойдзеш. А яна: няма мне як замуж ісці. А састарэеце, а раптам захварэеце, хто ж вам у ложак есці прынясе? Пытаюся: а каб цяпер твая мамка, тая, адчыніла дзверы, ты б на шыю кінулася,, забылася б пра мяне? А яна кажа: я б ёй сказала, што нас на гарэлку памяняла, ідзі, ты, зязюля. Я ж ёй казку чытала, як зязюля дзяцей параскідала па свеце...

## Як шукалі Сашу, а знайшлі Сашу і Аню

Юля і Мікалай— моцныя гаспадары. Дакладней— моцныя іх рукі і прага працаваць.

—Працавітыя,— сказалі пра іх аднавяскоўцы.

Але дом не поўніўся дзіцячымі галасамі-званочкамі. Дзеля чаго, дзеля каго тая праца і гаспадарка?— задавалі сабе неадноўчы пытанне. Неяк з Ваўкавыска тэлефануюць знаёмыя: у нас па суседству дзяўчынку як сабачку на прывязі трымае маці, скарынку



*Будзе сям'я з маслам! Анюта.*

хлеба, добра, калі дасць, Узялі б сабе?

Паехалі, аддала яе тая "мамаша", з распіскай, што прэтэнзій мець не будуць. Прывезлі дзіцятка дахаты, два з паловінай годзікі ёй было. Пажыла яна з месяц. Але там улады зразумелі, што дзяўчынка дзесьці знікла, пачалі шукаць. Карацей, прыйшлося везці яе назад. Яна да новых бацькоў прывыкла, яны да яе. А як сталі пад'язджаць да месца, зразумела маленькая ўсё— у голас...

Урэшце, вырашылі Кустэнкі знайсці сабе хлопчыка. Чарнявага, каб на бацьку падобны быў. І знайшлі— у Жодзіне, у дзіцячым доме. Саша. Але быў Саша з сястрычкай, Анюткай. Людміла Мікалаеўна, дырэктар, тады сказала: без Анюткі не аддам, дзяліць дзяцей не буду. Толькі разам. Я і так яе ледзь не да васьмі гадоў тут пратрымала— не хацела аддаваць у інтэрнат, каб не разлучаць...

Што ж. Паехалі Анютка і Саша ў Лебедзева, пакуль толькі ў госці. Пабылі колькі дзён і назад, у Жодзіна. А там у іх адна размова— адпускайце назад. Там нашы тата з мамай, гаспадарка, мы хочам ім дапамагаць... Пакуль ішло тое афармленне дакументаў, ледзь дачакаліся і бацькі сваіх дзетак, і дзеткі— бацькоў. І пасля, ужо пры сустрэчы, згадвала Анютка, ува што яе мамка першы раз была апранута, у што абута, якая прычоска была і якімі духамі пахла. Юлія Рыгораўна кажа, што ніяк не магла ўспомніць тыя дробязі, якія для дзетак былі надзвычай важнымі.

## Як шукалі Колю

Сям'я Кустэнкаў стала сапраўднай сям'ёй. Вось толькі не давала спакою адно. Аказваецца, у дакументах дзетак натрапілі яшчэ на адно імя. У Ані і Сашы быў брацік, Коля, якога пры пазбаўленні першай маці бацькоўскіх правоў умясцілі ў дом дзіцяці. Дзе цяпер Коля, з кім— было невядома. Пачалі шукаць. Пісаць паперы ў розныя інстанцыі.

Анюта і Саша не ведалі, што ў іх дзесьці ёсць брацік. Як і не ведаў, зразумела, Коля, што ён на гэтым свеце адзін. Ведалі пра гэта Юля і Мікалай Кустэнкі, ды і Людміла Нікалаева, дырэктар дзіцячага дома ў Жодзіне. Яна і дапамагла знайсці брацціка і сына ў Салігорску. Паехалі туды ўсёй сям'ёй. Было гэта амаль два гады пасля таго, як з'явіліся Аня і Саша.

## Рэтраспекцыя

У Мікалая Кустэнкі, пяцідзесяцігадовага мужчыны, які знае цану жыццю, які ніколі не верыў, што яно можа быць лёгкім, вільгатнеюць вочы, калі ўспамінае ён усё, што было з яго сям'ёй, сям'ёй бацькі і маці. Успамінае расказы аб вайне, Коля ж з сорак сёмага.

Сям'я таксама была зборная. Першая жонка ўкраінца Уладзіміра Кустэнкі, якога жыццё закінула ў Мінск, памерла. Засталіся двое дзяцей— сын і дачка. З гаротным лёсам была і яго маці: на Чэрвеньшчыне немцы забілі яе маці, чатырох братоў і сынка Колю (Мікалай пераняў ад брата імя). Пастралялі, пакідалі ў калодзеж. Бацькі сышліся. Узялі яшчэ двух дзяцей сяс-



*Ну як не любіць такую гарэзу!*

тры Уладзіміра. Так і жылі. Бацька працаваў у дапаможнай рыбнай гаспадарцы "Волма", што ў Чэрвеньскім раёне, пасля патрапілі ў Лебедзева.

Вялікая, хай сабе і зборная сям'я жыла дружна, і сёння дзеці адзін аднаго трымаюцца. Коля, самы малодшы, застаўся пры бацьках, чым мог, дапамагаў. Ажаніўся. Добра зарабляў. Але што тыя грошы?

У Юлі таксама жытухі лёгкай не было. Мама яе згубіла першага мужа ад тыфу. Другі, якога вайна закінула з Удмурты на Беларусь, і ад якога нарадзіліся дзве дачкі, не захацеў жыць сумлена. Маці яго выгнала. Даводзілася і кароўцы траву выскубаць з-пад платоў, і бульбу з калгасных баразён пасля ўборкі падбіраць начамі:

—Мы думалі толькі пра тое, як выжыць,— ледзь стрымлівае слёзы Юлія. Але ж выжылі.

Маглі такія людзі не падумаць аб сваіх дзетках?

## Грозны і Зюля

Кустэнкі заўсёды былі пры гаспадарцы, а, значыць, і пры жыўнасці. Праўда, цяпер засталіся з чатырох кароў толькі дзве— сабе пракарміцца. На большае сіл малавата.

Конік— Грозны— памочнік ва ўсім. Ёсць і трактар. Але трактар— толькі работнік. Грозны ж— жывая душа. Як жывая душа і сабачка, і Зюля— свінка.

—У нас кожная жывёліна мае імя. Інакш нельга,— гаворыць Мікалай.

Цяпер Кустэнкам лягчэй. Лягчэй, бо кожнай жывой душы ёсць каму імя даць. Дзеткі сябруюць і з Грозным, і з Зюляй. Так і прывучаюцца да таго, што яны адказныя за ўсё жывое.

## "Наша зямля"

І не толькі за жывое. І за зямлю таксама. Хаця зямля— гэта не жывое?

—Пакажыце мне зямлю,— прашу Кустэнкаў.

—Нашу зямлю?— перапытваюць дзеці.

Кустэнкі, заняўшыся фермерствам, выкупілі адзін гектар зямлі, узялі ў пажыццёвую арэнду з правам перадачы ў пажыццёвае карыстанне 10 гектараў. Колькі пахадзіў, паабіваў парогі Мікалай, пакуль дабіўся свайго. Ён ведаў: калі ёсць права чалавека на зямлю, ён зможа яе дастаць. Дастаў. Няўдобіца, праўда, як панчоха, заціснутая паміж лесам і рачулкай. Але свая.

—Буракі родзяць. Бульба, хлопцы, урадзіла,— гаворыць гаспадыня.— Ох і бульба. Давайце вам накапаю! Але ж дваццаць адзін прычэп гною сюды прывезлі. А авёс палёг.

Дзеці бягуць перад намі, паказваючы сваю зямлю.

Жыта трэба ўбіраць, восьвось можа пасыпацца.

—Трэці год на сваёй зямлі,— гаворыць Мікалай.— Першы мяне так абяцанкамі падвялі. Касой жыта касіў. Другі год папрасіў фермера, з камбайнам, змалаціў. Сёлета ў калгасе, у Насілаве, дамовіўся на камбайн. У сваім калгасе не хочуць дапамагчы.

Хадзіла неяк Юлія з дзецьмі



*На сваёй зямлі*

да мясцовага старшыні, каб той хоць крыху дапамог. Дзе там! Не.

Кустэнкі не думаюць хадзіць з працягнутай рукой. Не пра гэта думалі, беручы дзетак. Мікалай кажа, што калі ўзялі дзяцей, то самі і згадваць мусяць.

—Хаця б бог даў дзесятак гадоў вытрымаць, каб на крыло іх паставіць. Дзеля іх Мікалай яшчэ прыпрацоўвае ў Маладзечне вартаўніком. Мільён не лішні ў сціплым сямейным бюджэце.

Так. Яны не разлічваюць на чыесьці ахвяраванні ці дарункі. Але дзеля 10 гектараў зямлі не станеш заводзіць камбайн. І цэпам малаціць не будзеш.

## Мара Мікалая

Наогул, мне падалося, ды і мястачкоўцы пацвердзілі: Кустэнкі заўсёды разлічвалі на свае сілы. Жылі толькі з мазаля. Раней, да таго, як знайшліся дзеткі, ды і як жыццё было крыху лацвейшым для большасці з нас, яны зараблялі добра. Гаспадар каля 600 рублёў у месяц, ды і жонка яго 200:

—Машыну лёгка маглі купіць. Без напругі.

Цяпер не тыя часы. І пра дзетак думаць трэба. Каб яны калі недаелі— не дай бог. Свае малачко, масла, мяса. Але ж чалавек не толькі гэтым жыве. Вось і займеў Мікалай сваю мару. На сваёй зямлі возера выкапаць. Рыба, гусі... Тут бы і пачынаць у буданчыку можна было. Прырода, лес. Тады б і грошы завяліся, і на камбайн, можа, хапіла б— паўтара мільярды той каштуе. А можа, і на Канары з дзеткамі з'ездзіць калі адпачыць.

Не ведаю, спраўдзіцца мара Мікалая, ці не. Такія людзі бываюць настойлівымі ў дасягненні сваёй мэты. Дай бог ім шчасця ва ўсім. Адно магу сказаць, што мара кожнага з іх аб сваёй сям'і спраўдзілася.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*
*Фота Алега БАШТАВЕНКІ, фірма "Ракард".*



*Мара Мікалая — возера. Але і сённяшняга клопату хапае.*

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 2 сентября

### Белорусское телевидение

**17.05** На добрый лад. Передача из Гродно.
**17.20** Студия "Окно". "Жили-были..." Импровизации на темы творчества. Передача 1-я.
**17.40** Мультфильм.
**17.50** Музыкальный антракт.
**18.00** Финансовое время.
**18.25** Экономикст. Недвижимость.
**18.35** "Трижды один". Музыкальная передача MTV.
**18.50** Новости (с сурдопереводом).
**19.05** "Крок". "Риск-версия". Телеигра.
**19.40** "Это мы не проходили..." Экономическая программа.
**19.55** Белорусский дом.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.45** Спортивный телекурьер.
**22.05** Хоккей. Олимпийский квалификационный турнир. Сборная Латвии — сборная Беларуси.
**24.00** Новости.

### ОРТ

**17.00** Новости.
**17.20** "Новая жертва".
**18.10** Час пик.
**18.35** "Угадай мелодию".
**19.00** "Мы". Ведущий — В.Познер.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.35** Программа передач.
**20.40** Фантастический детектив "Багз — электронные жучки". "Все под контролем".
**21.45** "До и после..." Ведущий — В.Молчанов.
**22.35** Новости.
**22.45** "Линия кино". Фильм Александра Рогожкина "Ради нескольких строчек".

### Канал "Россия"

**6.00** Утренний экспресс.
**6.30** "Мак и Матли". Сериал.
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Вести.
**7.20** Утренний экспресс-2.
**7.50** Время деловых людей.
**8.00** Астрология любви. Лайма Вайкуле.
**8.30** "Дорогая редакция..."
**9.00** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**9.50** Товары — почтой.
**16.20** "Кто во что горазд".
**16.30** "Челленджерс". Сериал для подростков.
**17.00** Зависит от тебя.
**17.20** Экс эль мьюзик.
**17.30** L-клуб.
**18.15** Момент истины.
**19.30** "Санта-Барбара". Худ. фильм.
**20.30** Джентльмен-шоу.
**21.00** Погода на завтра.
**21.05** "На острие ножа". Худ.фильм (Великобритания).
**22.05** Телескоп.
**22.30** "Впереди, мне казалось..." Памяти Микаэла Таривердиева.
**23.20** Телемагазин.
**23.30** Со скоростью звука.

### Санкт-Петербург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.00, 23.25** Информ ТВ.
**12.10** "Первая любовь". Сериал.
**13.00** Срок ответа — сегодня.
**13.30** Советы садоводам.
**13.40, 20.40** Телеслужба безопасности.
**14.10** "Ришелье". Сериал (Франция).
**15.05** "Счастливец Шолти". Музыкальная программа.
**16.10** Международное обозрение.
**16.35** "Философия по Филу". Сериал для подростков.
**17.00** Стиль жизни.
**17.05** "Солти". Худ.фильм для детей (США). 1-я серия.
**17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания.
**18.40** Большой фестиваль.
**19.15** Спорт.
**19.20** "Первая любовь". Сериал.
**20.10** Чеховский театральный фестиваль "Русский Эсхил Петера Штайна". Передача 1-я.
**20.55** Спортивное обозрение.
**21.05** "Ришелье". Сериал (Франция).
**22.15** "Историческое расследование". В.И.Ленин. Передача 1-я.
**22.55** Чеховский театральный фестиваль "Русский Эсхил Петера Штайна". Передача 2-я.

### НТВ

**6.00** Анонс недели.
**6.10** Лучшие цирки мира. "Планета клоунов" (Франция).
**7.20** "Большой человек". Сериал. 3-я серия.
**8.10** Худ.фильм "Шестой палец" (Франция).
**9.45** Док.фильм "Вспомним те годы. 1954".
**10.30** Худ.фильм "Девочка и крокодил".
**11.35** Худ.фильм "Найти и обезвредить".
**13.00** Сегодня.
**13.20** Доктор Угол.
**13.25** Итоги.
**17.00** Открытый чемпионат США по теннису.
**18.00, 21.00, 23.00** Сегодня.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Худ.фильм "Колледж Кули" (США).
**21.35** Фестиваль мини-сериалов. "Королевство" (Дания). 1-я серия.
**22.30** Времечко.
**23.20** Открытый чемпионат США по теннису.

## Вторник, 3 сентября

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль.
**7.50** Экономикст.
**8.00** Новости.
**8.15** Бездельник.
**8.45** Мультфильм.
**9.00** ТВ — школе. Изобразительное искусство. 6-й класс. Национальный художественный музей Беларуси.
**9.25** "Чучело". Худ. фильм. 1-я и 2-я серии.
**11.25** "Это мы не проходили..." Экономическая программа.
**11.40** Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых.
**12.00** Творцы. Композитор Владимир Доморацкий.
**15.00** Новости.
**15.15** "Флиппер". Телесериал для детей.
**15.40** ТВ — школе. Белорусская литература. 6-й класс. "Песня — душа народа". Белорусские народные песни в литературном чтении.
**16.10** "Мстители из 2-го "В", "Мой друг Кнопик, который знает все". Короткометражные худ.фильмы.
**16.55** Все про все.
**17.20** Уроки Н.Новожиловой.
**17.50** Музыкальный антракт.
**18.00** "Единоличник". Док.фильм Белорусского телевидения.
**18.15** Будьте здоровы.
**18.25** Экономикст.
**18.35** "Трижды один". Музыкальная передача MTV.
**18.50** Новости (с сурдопереводом).
**19.05** "Дежурная аптека". Телесериал (Испания). 3-я серия.
**20.10** Концертный сезон. Камерный инструментальный ансамбль Белтелерадиокомпании.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** Хроника жатвы-96.
**22.10** "Технобанк" представляет: "Звезды" на экране. В.Гафт и Н.Русланова в худ.фильме "Я свободен, я ничей".
**23.40** Творцы. Дирижер Юрий Ефимов.
**0.20** Новости.

### ОРТ

**8.00** Новости.
**8.15** "Новая жертва".
**9.05** "Мы". Ведущий — В.Познер.
**9.50** Смехопанорама. Ведущий — Е.Петросян.
**10.15** "Понарошку". Мультфильм.
**10.30** "Угадай мелодию".
**11.00** Новости (с сурдопереводом).
**11.10** В эфире телерадиокомпания "Мир". "Мы и рынок".
**11.50** "Николай Гринько. Чтобы помнили..." Авторская программа Л.Филатова.
**12.35** "Четыре танкиста и собака". Сериал.
**13.30** Любовь с первого взгляда.
**14.00** Новости (с сурдопереводом).
**14.20** "Рыцарь Отважное Сердце".
**14.45** Кварьете "Веселая квампания".
**14.55** Мультитроллия.
**15.10** Волшебный мир, или Синема.
**15.40** "Элен и ребята".
**16.05** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** "Вокруг света". По страницам передачи "Клуб путешественников".
**17.00** Новости.
**17.20** "Новая жертва".
**18.10** Час пик.
**18.35** "Угадай мелодию".
**19.00** Тема.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.35** Программа передач.
**20.40** Евгений Леонов в комедии Георгия Данелии "Тридцать три".
**22.10** "Сиреневый туман". Музыкальная программа.
**22.55** Новости.
**23.05** Новые обыватели.
**23.35** "Белой акации гроздья душистые..." Музыкальная программа.

### Канал "Россия"

**6.00** Утренний экспресс.
**6.30** "Мак и Матли". Сериал.
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Вести.
**7.20** Утренний экспресс-2.
**7.50** Время деловых людей.
**8.00** Джентльмен-шоу.
**8.30** "Дорогая редакция..."
**9.00** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**9.50** Товары — почтой.
**16.40** Там-там новости.
**16.20** Месяцеслов.
**16.30** Зависит от тебя.
**16.45** Тележурнал "Здоровье".
**16.55** Хоккей. Кубок мира. США — Россия.
**19.30** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**20.30** Раз в неделю.
**20.55** Погода на завтра.
**21.00** Мужчина и женщина.
**21.40** Тихий дом. Программа С.Шолохова.
**22.30** Ночная жизнь городов мира.
**23.20** Телемагазин.
**23.30** Горячая десятка.

### Санкт-Петербург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.00, 23.05** Информ ТВ.
**12.10** "Первая любовь". Сериал.
**13.00** Срок ответа — сегодня.
**13.30** Советы садоводам.
**13.40, 20.40** Телеслужба безопасности.
**14.10** "Ришелье". Сериал (Франция). Заключительная серия.
**15.05** "С днем рождения, или Инкогнито". Телефильм.
**16.10** "Папа, мама и я — спортивная семья".
**16.35** "Философия по Филу". Сериал для подростков.
**17.00** Стиль жизни.
**17.05** Детское ТВ: "Там, где живет Паутиныч", "Студия "Вообрази".
**17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания.
**18.40** Большой фестиваль.
**19.15** Спорт.
**19.20** "Первая любовь". Сериал.
**20.10** "Российский фермер".
**20.55** Спортивное обозрение.
**21.05** "Ришелье". Сериал (Франция). Заключительная серия.
**22.15** Футбол. Чемпионат России. "Зенит" — "Алания" (Владикавказ).

### НТВ

**6.00, 13.00** Сегодня.
**6.20** Худ.фильм "Чудесные годы".
**6.45** "Большой человек". Сериал. 4-я серия.
**7.40** Худ.фильм "Запах хищников" (Франция — Италия).
**9.10** Док.фильм "Вспомним те годы. 1955-1956".
**10.40** Худ.фильм "Прощание славянки".
**12.00** Фестиваль мини-сериалов. "Королевство" (Дания). 1-я серия.
**12.50** Доктор Угол.
**17.00** Открытый чемпионат США по теннису.
**18.00, 21.00, 23.00** Сегодня.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Р.Гир и К.Андерсон в фильме "Далеко от дома" (США).
**21.35** Фестиваль мини-сериалов. "Королевство". 2-я серия.
**22.30** Времечко.
**23.20** Открытый чемпионат США по теннису.

## Среда, 4 сентября

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль.
**7.50** Экономикст.
**8.00** Новости.
**8.15** ШАНС. Информационно-аналитическая программа.
**8.45** Мультфильм.
**9.00** ТВ — школе. Белорусская литература. 6-й класс. "Песня — душа народа". Белорусские народные песни в литературном чтении.
**9.30** "Дежурная аптека". Телесериал (Испания). 3-я серия.
**10.30** Видимо — невидимо.
**15.00** Новости.
**15.15** "Флиппер". Телесериал для детей.
**15.40** Мультфильмы.
**16.10** "Вниз по Волге-реке". Фильм-концерт.
**16.40** Творцы. Поэт Олег Атаманов.
**17.15** Гости в дом. Неизвестная Турция.
**17.50** Музыкальный антракт.
**18.00** "Планета не только людей". Док. фильм.
**18.25** Экономикст.
**18.35** "Трижды один". Музыкальная передача MTV.
**18.50** Новости (с сурдопереводом).
**19.00** "Дежурная аптека". Телесериал (Испания). 4-я серия.
**20.00** "Кто это?" Телеигра.
**20.05** Супергол.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** Авто-парк.
**22.10** Николай Еременко-младший в четырехсерийном худ.фильме "Красное и черное". 1-я серия.
**23.30** Королевская охота.
**0.10** Новости.

### ОРТ

**8.00** Новости.
**8.15** "Новая жертва".
**9.05** Тема.
**9.50** "В мире животных" (с сурдопереводом).
**10.30** "Угадай мелодию".
**11.00** Новости (с сурдопереводом).
**11.10** В эфире телерадиокомпания "Мир". "Контакт — деловое сотрудничество стран Содружества".
**11.50** "Владимир Ивашов. Чтобы помнили..." Авторская программа Л. Филатова.
**12.35** "Четыре танкиста и собака". Сериал.
**13.30** Любовь с первого взгляда.
**14.00** Новости (с сурдопереводом).
**14.20** "Рыцарь Отважное Сердце".
**14.45** Кактус и К.
**14.55** До-ми-соль.
**15.10** Зов джунглей.
**15.40** "Элен и ребята".
**16.05** Тет-а-тет.
**16.30** "Вокруг света". По страницам передачи "Клуб путешественников".
**17.00** Новости.
**17.20** "Новая жертва".
**18.10** Час пик.
**18.35** "Угадай мелодию".
**19.00** "Чтобы помнили..." Вадим Спиридонов. Ведущий — Л. Филатов.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.35** Программа передач.
**20.40** Татьяна Самойлова и Василий Лановой в фильме "Анна Каренина". 1-я и 2-я серии.
**23.15** Новости.
**23.25** "Из репертуара Александра Вертинского". Музыкальная программа.

### Канал "Россия"

**6.00** Утренний экспресс.
**6.30** "Мак и Матли". Сериал.
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Вести.
**7.20** Утренний экспресс-2.
**7.50** Время деловых людей.
**8.00** Раз в неделю.
**8.30** "Дорогая редакция..."
**9.00** "Санта-Барбара". Худ. фильм.
**9.50** Товары — почтой.
**10.20** "Новые приключения неуловимых". Худ.фильм.
**16.20** "Кто во что горазд".
**16.35** "Челленджерс". Сериал для подростков.
**17.00** Зависит от тебя.
**17.15** Тележурнал "Здоровье".
**17.25** "Домино" Михаила Боярского.
**17.55** Соотечественники.
**18.25** Ваше право.
**19.30** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**20.25** "Аншлаг" представляет. А.Панкратов-Черный в программе "Бочка меда".
**20.55** Погода на завтра.
**21.00** "Мещерские". Худ.фильм.
**22.30** "Семь писем из Нижнего". Программа Н.Зверевой.
**22.45** Музыка всех поколений.
**23.20** Телемагазин.
**23.30** Адамово яблоко.
**0.15** "Не спи и смотри". Ночная музыкально-развлекательная программа.

### Санкт-Петербург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.10, 24.00** Информ ТВ.
**12.10** "Первая любовь". Сериал.
**13.10** Срок ответа — сегодня.
**13.30** Советы садоводам.
**13.40, 20.40** Телеслужба безопасности.
**14.10** "Жизнь Клима Самгина". Худ.фильм. 1-я серия.
**15.15** Фарух Рузиматов: "Живу, пока летаю".
**16.05** "Путешествие по Японии". Телефильм (Япония).
**16.35** "Философия по Филу". Сериал для подростков.
**17.00** Стиль жизни.
**17.05** "Солти". Худ.фильм для детей. 2-я серия.
**17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания.
**18.40** Большой фестиваль.
**19.15** Спорт.
**19.20** "Первая любовь". Сериал.
**20.10** "Экология Петербурга сегодня". Круглый стол.
**20.55** Спортивное обозрение.
**21.05** "Жизнь Клима Самгина". Многосерийный худ.фильм. 1-я серия.
**22.25** "Сладкая женщина". Худ.фильм.

### НТВ

**6.00, 13.00** Сегодня.
**6.20** Худ.фильм "Чудесные годы".
**6.45** "Большой человек". Сериал. 5-я серия.
**7.35** Худ.фильм "Свидетель" (Франция — Италия).
**9.05** Док.фильм "Вспомним те годы. 1957".
**9.50** Мультфильм "Формула-1".
**10.00** Худ.фильм "Далеко от дома" (США).
**11.45** Фестиваль мини-сериалов. "Королевство". 2-я серия.
**12.35** Доктор Угол.
**17.00** Открытый чемпионат США по теннису.
**18.00, 21.00, 23.00** Сегодня.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Анук Эме и Майкл Йорк в фильме Ежи Сколимовского "Успех как лучшая месть" (Великобритания).
**20.40** Доктор Угол.
**21.35** Фестиваль мини-сериалов. "Королевство". 3-я серия.
**22.30** Времечко.
**23.20** Открытый чемпионат США по теннису.

## Четверг, 5 сентября

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль.
**7.50** Экономикст.
**8.00** Новости.
**8.15** Авто-парк.
**8.30** "Белвидеоцентр" представляет: "Магутны Божа". Док.фильм.
**9.00** Гости в дом.
**9.30** Студия "Телебом". "Сказка Купалья".
**9.55** "Фантастическая история". Худ. фильм.
**11.00** Королевская охота.
**11.40** "Дежурная аптека". Телесериал (Испания). 4-я серия.
**15.00** Новости.
**15.15** "Флиппер". Телесериал для детей.
**15.40** Мультфильм.
**16.00** ТВ — школе. Музыка. 2-й класс. О чем говорит музыка.
**16.20** Контрасты. Правовая программа.
**16.50** Творцы. Народная артистка Беларуси Нина Корнеева (Гомель).
**17.20** Уроки Н.Новожиловой.
**17.50** Музыкальный антракт.
**18.00** "Что случилось в зоопарке". Короткометражный фильм.
**18.25** Экономикст.
**18.35** "Трижды один". Музыкальная передача MTV.
**18.50** Новости (с сурдопереводом).
**19.05** "Дежурная аптека". Телесериал (Испания). 5-я серия.
**20.05** "Крок". "Оскар". Телеигра.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** Хроника жатвы-96.
**22.10** "Красное и черное". Худ.фильм. 2-я серия.
**23.40** "Крок". Программа для молодежи.
**0.10** Новости.

### ОРТ

**8.00** Новости.
**8.15** "Новая жертва".
**9.05** "Серебряный шар". Рита Хейворт. Ведущий — В. Вульф.
**9.45** "Клуб путешественников" (с сурдопереводом).
**10.30** "Старая игрушка". Мультфильм.
**10.40** Смак.
**11.00** Новости (с сурдопереводом).
**11.10** В эфире телерадиокомпания "Мир". "Под крышей мира".
**11.50** "Иван Миколайчук. Чтобы помнили..." Авторская программа Л. Филатова.
**12.30** "Четыре танкиста и собака".
**13.20** "Приключения маленьких друзей". Мультфильмы.
**14.00** Новости (с сурдопереводом).
**14.20** "Рыцарь Отважное Сердце".
**14.45** Лего-го!
**15.10** Тин-Тоник.
**15.40** "Элен и ребята".
**16.05** Рок-урок.
**16.30** "Вокруг света". По страницам передачи "Клуб путешественников".
**17.00** Новости.
**17.20** "Новая жертва".
**18.05** Футбол. Чемпионат России. "Динамо" (Москва) — ЦСКА. Трансляция.
**20.00** Время.
**20.35** Программа передач.
**20.40** Боги и герои Олимпа в фильме "Битва титанов".
**22.50** Новости.
**23.00** "Обоз". Шоу Ивана Демидова.
**23.50** "Ночью за окном..." Музыкальная программа.

### Канал "Россия"

**6.00** Утренний экспресс.
**6.35** "Мак и Матли". Сериал.
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Вести.
**7.20** Утренний экспресс-2.
**7.50** Время деловых людей.
**8.00** Проще простого.
**8.30** "Дорогая редакция..."
**9.00** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**9.50** Товары — почтой.
**10.20** "Корона Российской империи, или Снова неуловимые". Худ.фильм. 1-я серия.
**16.20** Месяцеслов.
**16.30** "Челленджерс". Сериал для подростков.
**17.00** Зависит от тебя.
**17.15** Экспо-вестник.
**17.25** Ретро-шлягер.
**17.50** Мультфильм.
**18.00** Новое пятое колесо.
**18.40** "Темная" для Э. Лимонова.
**19.30** "Санта-Барбара". Худ.фильм.
**20.25** "Городок". Развлекательная программа.
**21.00** Погода на завтра.
**21.05** "Чернокнижник-II". Худ.фильм (США).
**22.50** "Рождение Эрота". Мультфильм для взрослых.
**23.20** Телемагазин.
**23.30** Рек-тайм.
**23.45** Петербургские сезоны.

### Санкт-Петербург

**14.55** "Первая любовь". Сериал.
**15.40** Советы садоводам.
**15.55, 18.55, 22.15, 0.05** Информ ТВ.
**16.10, 20.40** Телеслужба безопасности.
**16.25** Мультфильм.
**16.35** "Философия по Филу". Сериал для подростков.
**17.00** Стиль жизни.
**17.05** Ребятам о зверятах.
**17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания.
**18.40** Большой фестиваль.
**19.15** Спорт.
**19.20** "Первая любовь". Сериал.
**20.10** "Личное дело". М.Ростропович.
**20.55** Спортивное обозрение.
**21.05** "Жизнь Клима Самгина". Худ.фильм. 2-я серия.
**22.30** Российский фермер.

